



# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 51 (1138) ГОД XXII БЕЛАСТОК 18 СНЕЖНЯ 1977 г. ЦАНА 60 гр.




*Жыллёвыя дамы ў калгасе „Прагрэс“ Гродзенскай вобласці.*

Хвалюючыя спеў і музыка ды вясёлкавае ззянне густоўных касцюмаў адразу і непадзельна запаланілі гледачоў, што вечарам 25 лістапада г.г. змаглі пабываць у беластоцкім кінатэатры „Звёнзковец“ на канцэрце народнага ансамбля песні і танца ордэна Леніна калгаса „Прагрэс“ Гродзенскага раёна. Нашыя савецкія госці, як рэдка які нават і прафесіянальны ансамбль, патрапілі трымаць у захапленні на працягу ўсяго паўтарагадзіннага свайго выступлення. Удалося ім гэта дзякуючы высокаму выканаўчаму майстэрству і сцэнічнай культуры. І цяжка было нашым беластоцкім гледачам не дзівавацца такому дасканаламу ансамблю, што дзейнічае ў адным калгасе. Так іменна, адным-адзіным, але затое якім!

Калгас „Прагрэс“, якога цэнтрам з'яўляецца сяло Верцялішкі непадалёк Гродна — гэта адна з перадавых сельскіх гаспадарак у Савецкай Беларусі. Яго спецыяльнасцю з'яўляецца, у асноўным, вырошчванне збожжа і гадоўля быдла. У мінулым годзе, напрыклад, „прагрэсаўцы“ дабіліся рэкордных дасягненняў: сабралі ў сярэднім па 49,1 цэнтнера збожжа з аднаго гектара, гадавалі 7 500 штук быдла, у тым каля 1 500 штук дойных кароў, а гадавы даход калгаса склаў суму 2 мільёны 700 тысяч рублёў. Стараннлівая праца калгаснікаў, забеспячэнне гаспадаркі самымі сучаснымі машынамі і прымяненне навейшых здабыткаў навукі — вось асноўныя крыніцы гэтых паказальных эканамічных дасягненняў. Працаўнікі „Прагрэсу“ жывуць ва ўмовах ні ў чым не ўступаючых гарадскому стандарту, а тамашняга палаца культуры Верцялішкам можа пазайздросціць не адзін горад.

## ЦУДОЎНА! ПРОСІМ ЧАСЦЕЙ!

Усё гэта і спрыяе разбуджэнню ў людзей зацікаўлення мастацтвам. Развівае ж і дасканаліць свае прыродныя дараванні аж 280 асоб моладзі і дарослых у розных мастацкіх гуртках, што дзейнічаюць пад кіраўніцтвам спецыялістаў якраз у тым жа палацы культуры. Ансамбль песні і танца складаецца з 94 асоб, паўстаў ён пяць год таму назад з хора, які дзейнічаў у „Прагрэсе“ ўжо каля двух дзесяцігоддзяў. Развівае тут таксама актыўную дзейнасць вакальна-інструментальны калектыў „Раніца“, які стаў лаўрэатам Рэспубліканскага конкурса эстраднай і патрыятычнай песні ў 1976 годзе. Разгортваюць сваю дзейнасць і шэраг іншых гурткоў.

Ансамбль песні і танца ўжо ўдала выступаў у сталіцы рэспублікі горадзе Мінску, гасцяваў у суседняй Літоўскай ССР, часта даваў канцэрты ў Гродне, а таксама ў іншых гарадах, саўгасах і калгасах Гродзеншчыны. Напярэдадні выезду на Беласточчыну ён выступіў з багатым канцэртам перад удзельнікамі Усесаюзнага семінара работнікаў гандлю, што праходзіў якраз у „Прагрэсе“.

Мяркуючы па паказанаму на беластоцкай сцэне майстэрству, „прагрэсаўцы“ ўсюды дастаўлялі гледачам самыя тонкія і мастацкія перажыванні.

З выканання кожнай беларускай народнай песні відаць, што дырыжор ансамбля В. Пакумейка надта чулы на ўсе адметныя асаблівасці нацыянальнага меласу, а харысты і аркестранты пад яго кіраўніцтвам патрапяць данесці іх да слухачоў. Гэта датычыць у роўнай ступені лірычнай песні „Кукавала зя-

(Працяг на стар. 4)




* ✻ *

*На зары нашага крылатага веку,*
*Калі самалёты яшчэ лёталі*
*З хуткасцю свойскае курыцы,*
*А з вышыні можна было бачыць,*
*Як цётка Аўдоцця ідзе па ваду,*
*Як blішчаць павешаныя на плоце*
*стаўбуны,*
*Як дзед Архіп смаліць сваю люльку,*
*І пра кожны рэйс пісалі газеты,*
*А пілотаў і пасажыраў,*
*Як рамантычных герояў,*
*Паказвалі ў кіно,*
*І пасля кожнага пералёту*
*Можна было нешта напісаць*
*Аб сваіх уражаннях, —*
*Цікава было лётаць.*
*Цяпер жа, калі з касмічнай вышыні*
*Нічога не разгледзіш, апроч зор,*
*Да якіх мільёны светавых год,*
*Я ўсё больш і больш*
*Люблю хадзіць пехатой.*

* ✻ *

*Спрадвеку*
*Абследуем галактыкі.*
*І пакуль што нідзе,*
*Апроч Зямлі,*
*Не знайшлі слядоў*
*Жыцця.*
*Калі сапраўды*
*Мы — самотныя ў сусвеце,*
*Як жа нам трэба з табой*
*Даражыць нашай*
*Дружбай!*

### ПРАГНОЗ НАДВОР'Я

*„Заўтра паводле прагнозу*
*Бюро надвор'я,*
*Будзе сонечны і бязветраны дзень.*
*Тэмпература паветра — плюс 25°“...*

*Дзівакі сіноптыкі!*
*Няўжо яны не ведаюць,*
*Што няма аднаго надвор'я для ўсіх.*
*У мяне, напрыклад,*
*Усё залежыць ад цябе:*
*Калі не прыйдзеш, —*
*Кожны дзень будзе шэры і сцюдзёны,*
*А калі прыйдзеш, —*
*Кожны дзень будзе сонечны і ясны.*

### НЕПАДСУДНАЯ

*Я на яе хацеў у суд падаваць*
*За скрадзены мой сон,*
*Парушаны спакой*
*І за сваё,*
*Як пелася ў старых рамансах,*
*Разбітае сэрца.*

*Ды следчы,*
*Перагарнуўшы —*
*Ад рымскага да нашага —*
*Ўсе фаліянты права,*
*Развёў са спачуваннем рукі:*
*— Непадсудная.*

* ✻ *

*Як перапісвацца з табой,*
*Калі расстання боль*
*Усё нарастае,*
*А паміж небам і зямлёй —*
*Паміж алоўкам і паперай —*
*Маланкі прабягаюць?*

**Максім Танк**

## КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

Не раю прабівацца ў іх з боку вёскі Баброўнікі, што знаходзіцца каля міжнароднай шасейнай магістралі, як гэта зрабіў я, бо ехаць па палявой дарозе — не вялікая раскоша. Значна выгадней і прасцей трапіць у Белагорцы па шашы

# БЕЛАГОРЦЫ

Крынкі-Крушыняны. Пераехаўшы мост з **вадзяным млінам** на рэчцы **Нетупе**, вы адразу паварочваеце ўлева і ў паўтара-двух кіламетрах уязджаеце ў невялічкую вёсачку, прысеўшую пад парослай рэдкасеем гарою. Гэта і ёсць Белагорцы — мясціна з 10 сем'ямі, сярод якіх толькі 5 сялян, а 5 пенсіянераў, што здалі зямлю дзяржаве. Кажуць, да апошняй вайны жыло тут каля 40 сямей, але ў першыя пасляваенныя гады частка выехала ў Беларускую ССР, а многія падаліся ў іншыя бакі Польшчы.

Рэчка, лугі, лес — усё гэта спрыяла вельмі ранняму пасяленню тут людзей, але пачатак сённяшніх Белагорцаў трэба выводзіць з нейкай чалавечай сялібы на палетку **Старына**, дзе самая ўраджайная і з самым глыбокім культурным пластом зямля. Магчыма, што гэта след таго засялення, якое ў XIV-XV стагоддзях пасоўвалася на поўдзень з боку Гродна па абодвух берагах ракі Свіслачы. Па дакументах жа вядома, што ў XVII ст. гэты абшар у міжрэччы Нетупы і Свіслачы быў уласнасцю „гаспадаркай“, г.зн. належаў да маёмасцей вялікага князя літоўскага і караля польскага. У 1679 г. кароль Ян Сабескі ахвяраваў у Крушынянах і ў іх наваколлі значныя абшары татарам за іхнія заслугі ў вайсковай службе для Рэчыпаспалітай. З гэтым фактам нейкім чынам былі звязаны і Белагорцы, бо ў памяці старажылаў захавалася паданне пра паноў Бараноўскага і Карыцкага, з якіх апошні напэўна быў па па-

(Працяг на стар. 4)



*Помнік генерал-маёру Віктару Жолудзеву.*

 

ЛІТАРАТУРНЫ ПАЛЕТАК

# Міхась Шаховіч — паэтычны разлік часу

Вершы Міхася Шаховіча — гэта спроба авалодаць цёмным, часта балючым часам. Змаганне з часам мае ў гэтай паэзіі свой філасофскі размер, бо гэтае змаганне з'яўляецца антыноміяй паміж жыццём і смерцю, паміж дабром і злом. Вершы Шаховіча — гэта спроба рэканструяваць свет, ачысціць яго з асадкаў непакою, і такім чынам наблізіцца да крыніц, што ў творчым працэсе, шляхам разрыву з соннай метафарай, паддаюцца поўнаму ачышчэнню.

Роздумы Шаховіча над светам адносяцца да спраў на першы погляд вядомых і банальных. Але ўсё ж: памяць — забыццё, прамінаючы час, словы, што з цяжкасцю паддаюцца замацаванню — усё гэта ставіць вершы Шаховіча ў антыноміі і роля паэта з'яўляецца ўжо роллю яднання супярэчнасцей, змякчэння непераадольных падзелаў. Паэт піша:

*калі даваць*
*дык усім сэрцам*
*шчыра*
*калі смяяцца*
*то ўсёй душою*
*не лісліва*
*як цалаваць*
*не юдушкі губамі*
*а калі плакаць*
*не так*
*абы з нагоды*
*а ўжо раўсці*
*як восенню прырода*



Роздум над светам — гэта адначасова разважанні над чалавекам. Таму жыццё ў паэзіі Шаховіча з'яўляецца праекцыйным экранам, на якім чалавек змагаецца з таямніцай часу. Імкнецца нанава пакіраваць чалавекам, вярнуць яму чалавечыя адчуванні, чалавечую веру.

*сатрыце ветры сэрца ў попел*
*і кіньце ў вясны растопы*
*хай памяшаецца*
*з зямлёю*
*паветрам*
*сонцам*
*і з вадою ўвойдзе*
*зелені ў аорты*
*як жыватворны цудны лек.*
*І хай жыве прырода з сэрцам*
*калі не ўмее чалавек.*

Трансмісія паміж рэчаіснасцю і марай, сном, паміж рэчаіснасцю і ўспамінам, як быццам паводле прынцыпаў Бергсана, што мінулае праяўляецца ў кожнай дробязі нашага жыцця. Жыццё ў паэзіі Шаховіча — гэта пошукі чалавечнасці, бясконцы шлях людскога існавання, у якім фальш цяжка прыкрыць слязамі і пераблытаныя шляхі выпрастаць. Недзе згубіліся правы чалавека і забыліся пра прыроду, пагубіліся асноўныя паняцці.

*Хто не верыць ні ў што*
*— той памёр у небыцці.*
*Трава верыць у расу*
*— ёй расці ды расці,*
*кветка верыць у пчалу*
*— ёй нектар выдаваць,*
*рака верыць у ваду*
*— берагі ёй слаць.*
*А ў што ж верыш ты?*
*Хто не верыць ні ў што*
*— той памёр у небыцці.*

Паэт не саромеецца пачуцця, публічная ў нейкай меры споведзь з'яўляецца яшчэ адным голасам у імя шчырасці і праўды. Таму словы часта кранаюць справы кахання паміж жанчынай і мужчынам. Аналізуюцца ўзлёты і падзенні чалавека *„Прабач за ўсё — (за боль і шчасце), за пусты смех мой, (за слёзы у вачах тваіх), за мае шчырае каханне, (за дні, якія я забраў). Прабач за ўсё!..“*

У паэзіі Шаховіча дамінуе той роздум над жыццём, што ўзнік з пытанняў, на якія няма адказу: гэты роздум часта канчаецца горкім сцверджаннем. Філасофская трактоўка жыцця вынікае з філасофіі прыроды, у якую ўпісаны чалавек. Верш *„Лабірынт дурноты“*, з мараллю як у байцы, з'яўляецца спробай паказаць долю сабакі, выгнанага на бяздомныя шляхі. Яго крыўда адпомшчана — прыходзяць зладзеі. Аднак з падтэксту твора выяўляецца яшчэ адна праўда: нялюдскае аблічча чалавека.

Прырода і ўпісаная ў яе гісторыя — гэта таксама гісторыя народа і яго адвечнага змагання. Паэзія Шаховіча не глухая і на карэнні, з якіх вырастае існаванне нацыі. Частыя вобразы бяроз, палёў, сосан — гэта выразныя сляды пошукаў праўды ў сваім, родным краявідзе.

*Поўная тайн і розных неспадзевак,*
*так як першае каханне ў жыцці,*
*імчыцца паміж зорачных засеваў,*
*дзе бушуюць метэорныя дажджы.*
*А яна зялёная багіня*
*— жыць бы ёй спакойна божы век!*
(з верша *„Зямля родная“*)

І яшчэ, выразна акрэсленая, лінія няўмольнага часу, які выдзірае жыццю маладосць і родны сельскі краявід. Час дарослясці, час адыходу з космасу роднай вёскі — гэта не толькі свядомасць прамінання, але таксама і ацэнкі ды падсумоўвання вопыту ўласнага жыцця. Паэтычны разлік часу Шаховіча — гэта таксама свядомасць, што нягледзячы на „зацёртыя дарогі“ вяртанні становяцца неабходнымі.

*Але загінула дарога*
*ў лабірынце між гадоў...*
*Гадоў так мала, дарог многа —*
*і не вярнуцца ўжо ў сяло.*
*Не бачыць больш вазоў касматых*
*дзіцячым вокам у сенакос...*
*Усё зарасло жыццём вусатым*
*і я таксама перарос.*

**Ян Леанчук**

М. ШАХОВІЧ

## З народных гаворак

**Букса** — прылада да дзіцячай гульні. Складаецца з дзвюх частак — жалезнага абруча і драцяной ручкі. Абруч пускаецца ў ход і, пхаючы яго ўспомненай ручкаю, надаецца яму магчымасць хуткага перамяшчэння. Размеры абруча давольныя. Часта нават выкарыстоўвалася пры гэтым веласіпеднае кола. Ну і букса, погледь як смычыт, туолькі біегчы поспівай. Кажу тобіе по-доброму, прынэсь мніе зараз мою буксу, бо іначэй кіэпсько з тобою будэ.

**Кліэй** — шпрота. А кліэйюов — туолькі знай вытягаті. Оно закінэш, а кліэй вжэ і чэпіт на гачкові. І то найліепш на мухі бэрут.

**Ковбун** — пячкур. Возьмі удочку і хоть над рыэчку. Посідімо, ковбунуов полапаемо. Што-што а ковбуны то в нас вэдуцця.

**Краснюк** — падасінавік. Чуть нэ ціелы дэнь пролазів і коб хоч дурная бэтка трапілася. І ідучы до дому, дай думаю в осіну на заклунях загляну. А там — краснюк на краснюкові сідіт. Ну туолькі краснюкуов то я шчэ в жыцёві нэ бачыв. І маленькі краснючкі, і вэлізарны краснючыска — аж очы розбігаюцця.

**Сморшчыэ** — чорныя плямкі ў бульбе. Вельмі лёгка вымаюцца яны з варанай бульбы і нагадваюць сабой маленечкі леяк. Што за паскудны картоплі лятось. Одны сморшчыэ. І сморшчыэ. Сморшч на сморшчові. І куолькі, здаецця, воны тут полежалі, а так псутісе почалі. То што будэ вэсною?

**Утюор** — равок у клёпках, у які ўстаўлялася дно ў бочцы ці нейкім іншым цэбрыку. Трэба новы утюор прогнаті і дно пэрэставіті, а то вжэ муоцно пропускаті почало.

*(Канюкі)*

## Вынікі конкурсу „Ці ведаеш Беларусь?“

З нагоды 60 гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі Польскае радыё ў Беластоку і Камітэт па тэлебачанню і радыёвяшчанню аблвыканкома ў Гродне аб'явілі ў кастрычніку г.г. супольны конкурс.

У Гродне конкурс праходзіў пад лозунгам **„Наша дружба ўз'яднала народы“**, а жыхары Беластоцкага, Ломжынскага і Сувальскага ваяводстваў адказвалі на дзесяць пытанняў па гісторыі Беларусі і яе сувязях з нашай краінай.

Конкурс выклікаў вялікае зацікаўленне. Толькі з нашага боку прыняло ў ім удзел 959 чалавек. Сярод адказаў знайшліся цэлыя па-мастацку аформленыя альбомы, якіх змест выходзіў далёка за рамкі, вызначаныя конкурснымі пытаннямі.

У выніку лясавання найбольш шчаслівай удзельніцай конкурсу **„Ці ведаеш Беларусь?“** аказалася **Аліна Барташук** з вёскі Грэдалі, вучаніца Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску Падляшскім. Яна выйграла малагабарытны **тэлевізар.** Апрача яе сярод узнагароджаных знайшліся: **Ян Басалай** — рабочы Беластоцкай фабрыкі мэбляў, **Эва Давідовіч** — вучаніца пачатковай школы № 26 у Беластоку, **Аліцыя Паўлоўская** з Кузніцы, **Міраслава Пракапюк** з вёскі Курашава, вучаніца гайнаўскага агульнаадукацыйнага ліцэя, **Бажэна Стэфанюк** і **Бася Герасімюк** з вёскі Фальваркі Тыльвіцкія, вучаніцы Заблудаўскай пачатковай школы, **Язэп Залеўскі,** пенсіянер, жыхар Беластока і **Юрка Завойскі,** вучань агульнаадукацыйнага ліцэя імя Марыі Канапніцкай у Сувалках.

Усе каштоўныя ўзнагароды для нашых удзельнікаў конкурсу „Ці ведаеш Беларусь?“ фундавалі гродзенскія сябры. Гэтыя ўзнагароды асабіста ўручаў старшыня Камітэта па тэлебачанню і радыёвяшчанню аблвыканкома ў Гродне, **Яўгеній Місарэвіч.** І наадварот — савецкім удзельнікам конкурсу аб Польшчы і Беласточчыне ўзнагароды фундавала кіраўніцтва Польскага радыё ў Беластоку.

Конкурс „Ці ведаеш Беларусь?“ будзе ў нас пастаянным. У гэтым годзе супаў ён са святкаваннем 25 гадавіны Беластоцкага аддзялення Польскага радыё. **(вр)**



*Старшыня гродзенскага Камітэта па тэлебачанню і радыёвяшчанню* ***Яўгеній Місарэвіч уручае Аліне*** *Барташук галоўную ўзнагароду. У сярэдзіне галоўны рэдактар Польскага радыё ў Беластоку Януш Вэранічак.*
*Фота З. Лянкевіча.*

## Радасці і праблемы

Прыгожы вялікі будынак тоне ў застыгшых ў познаасенняй маркоце дрэвах. Паміж аголенымі галінамі праблісквавюць школьныя вокны, праз шыбіны якіх відаць схіленыя над партамі дзіцячыя галавы. На калідорах цішыня, толькі час ад часу з класных залаў далятаюць прыглушаныя настаўніцка-вучнёўскія дыялогі. Сцены калідораў упрыгожаныя газеткамі, якіх тэматычнасць гаворыць аб рэгулярным выменьванні. Званок абвясціў канец урока і вясёлая вучнёўская грамада з шумам пакідае класы. Дырэктара школы, Сцяпана Бурылу, застаем у настаўніцкім пакоі над раскладам заняткаў. Дае нейкія парады сваім настаўніцам. Праз дзесяць хвілін школа зноў заціхае і ў настаўніцкім пакоі пачынаецца спакойная размова.

Пачатковая школа ў Малінніках налічвае 120 вучняў. Апрача гэтага мае яна два філіялы ў Рыгораўцах і Вульцы, дзе вучыцца наступных 65 вучняў. Сваёй дзейнасцю ахапляе яна навакольныя вёскі. Трэба давозіць дзяцей. І тут першая праблема, недахоп адпаведных дарог. Непатрэбнае трачанне вучнёўскага часу.

— Ёсць два зборныя пункты, — гаворыць дырэктар, — Москаўцы і Вулька. І калі б ехаць праз Рыгораўцы дык усяго толькі 6 кіламетраў. Але там такая дарога, што і прайсці цяжка. У сувязі з гэтым трэба рабіць крут звыш адзінаццаць кіламетраў. Часта толькі на адны даезды дзеці трацяць па тры гадзіны. Дырэкцыя наладзіла дзецям дадатковае харчаванне. Харчы давозяць з Орлі. Але кухня пры Гміннай школе ў Орлі настолькі малая, што не ў сілах абяспечыць харчамі нават сваіх вучняў. Давялося купляць харчы з арлянскай гасподы за большую цану.

— Настаўніцкая кадра? Можна тут сказаць рознае. Няма сумненняў аднак, даюць з сябе ўсё. Перашкаджае недахоп поўнакваліфікаваных спецыялістаў і нестабільнасць кадраў.

Дырэктар пачаў пералічаць. Трывожыць недахоп адпаведна падрыхтаванага матэматыка. Ну і праблема стабілізацыі. На працягу апошніх пяці год са школы адышло шмат настаўнікаў.

— У чым прычына?

— Я думаю, — адказвае дырэктар, — перад усім у тым, што школа не мае магчымасці абяспечвання настаўнікаў кватэрамі. А гэта істотная справа.

Адчуваецца тут недахоп людзей і на замяшчэнне. Пасля першага паўгоддзя дзве асобы адыходзіць на мацярынскі водпуск, адна бярэ водпуск на пісанне магістэрскай работы, а замясціць іх няма кім.

Нягледзячы на трывожачыя праблемы, школа жыве поўным жыццём. Дзейнічаюць тут шматлікія вучнёўскія арганізацыі. Асабліва на высокім узроўні пастаўлены СКС. Дзякуючы ахвярнай і настойлівай працы настаўніка Георгія Навумчука, дабіўся ён урадлівых пладоў. У мінулым годзе чацвёртае месца ў ваяводстве ў лёгкаатлетычным многаборʼі. У гэтым годзе першае месца ў тым жа многаборʼі на спаборніцтвах паадакруговых. А хто любіць песню — дык, калі ласка, запрашае вельмі добры і вядомы хор, які вядзе вопытная настаўніца Галіна Навумчук.

Зноў вяртаемся да ўрокаў, да навучання беларускай мовы.

— Ёсць праблемы з бацькамі, але крыху і мы, настаўнікі, не дагледзелі, — заяўляе дырэктар. — Быў такі час, што беларуская мова стаяла ў нас на нізкім ўзроўні. Але апошнім часамназіраецца паправа. І ўжо малодшыя класы, асабліва другі і трэці, у навучанні беларускай мовы стаяць высока, і колькасна і якасна. Трэба адзначыць, што маем мы цяпер добрага спецыяліста, Тамару Русачык — выпускніцу кафедры Беларускай філалогіі ВУ.

І яшчэ справа даезду настаўнікаў. Некаторыя карыстаюць з аўтобусаў, а тыя на жаль не прытрымоўваюцца ніякіх правіл. Асабліва тыя, якія падпарадкаваны Аддзелу ПКС у Сямяцічах. Ездзяць як ім захочацца. Чаму так?

**Міхась Шаховіч**



 

**Беларуская літаратура**

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

## ЗМІТРОК БЯДУЛЯ — ЧАСТКА X

**Постаці жанчын.** Амаль у кожным дарэвалюцыйным апавяданні Бядулі выступаюць жанчыны. Згодна з сапраўднай пазіцыяй, роляй у сямейным жыцці вясковых жанчын трактуе іх пісьменнік як вялікіх мучаніц і гераінь адначасна. Пісьменнік з глыбокім веданнем рэаліяў вясковага побыту рысуе жаночыя постаці. Цікавіць яго галоўным чынам жанчына-маці, жанчына-жонка, жанчына-нявестка. Звяртае ён увагу на паднявольную пазіцыю жанчыны ў сям'і, на яе выключную ахвярнасць. Хаця Бядуля нідзе непасрэдна не параўноўвае этычных вартасцей жонкі і мужа, то ўсё ж такі ўсім ходам падзеі падкрэслівае яе маральную дамінацыю і фізічную падняволенасць.

Пазіцыя жанчыны ў дарэвалюцыйнай беларускай сям'і прадстаўлена ў першых сказах аднаго з найранейшых апавяданняў Бядулі — у „Тулягах“.

„— Бадай цябе трасца, бадай цябе! — буркнуў Арцём і паставіў апарожненую ўжо пляшку ад гарэлкі на стол,

— Ё-о-о чаго з'есці? — вышэй крыкнуў ён п'яным голасам, адвярнуўшыся ад згорбленай, забітай горам жонкі, каторая капалася каля прыпечку.

— Эй, сцерва, кратайся, — бо калі трэсну!, — і яго кулак ужо засвістаў у яе над вухам, як ластаўка над сваім гняздом.

Арцёміха здаўна ўжо прывыкла да яго лупцоўкі, дык і не старалася б нават выкруціцца, але ў гэты самы момант з шырокага ложка пачуўся слабы тоненькі галасок: „Піць, мамачка, піць!..“

Гэтую сцэну можна трактаваць як сімвалічную карціну старога беларускага жыцця. П'яны муж пры стале, забітая жанчына пры печы, хворае дзіця на ложку. Нешта падобнае можна было сустрэць у кожнай вёсцы і амаль у кожнай хаце. Вось гэтую страшэнную тыповасць і паказвае пісьменнік, нічога не абыходзячы, не падмяняючы і не калерызуючы. Страшэнная праўда жыцця з'яўляецца галоўным героем твора. Жыццё вясковай жанчыны Арцёміхі значаць крыжы на магілах яе дзяцей: „Юзя ўтапіўся, Марылю кабыла забіла, Агатку яна сама прыспала на ложку. Сцёпка так памёр ад нейкага безгалоўя...“

Умірае і апошняе, мабыць, дзіця Арцёміхі — Ганулька. Пісьменнік глыбока і пераканаўча рысуе паводзіны жанчыны ў вялікім няшчасці.

Даследчык, які не ведае беларускіх вясковых абставін, мог бы закінуць апавяданню надмерную сентыментальнасць. Аднак, ведаючы гэтыя абставіны, трэба падкрэсліць, што ўсё ў творы рэалістычнае. Постаць Арцёміхі, з яе нявольніцкай пакорай, з яе болем, прычытаннямі, трагічнай дэтэрмінацыяй — астаецца ў згодзе з тыповым псіхалагічным абліччам жанчыны-беларускі.

Блізкім па мастацкіх малюнках і ідэйнай накіраванасці да апавядання „Тулягі“ з'яўляецца апавяданне „Сымон“. Маем тут дачыненне толькі з версіяй той самай праблемы, якая завецца сялянскім горам. Выступаючы ў апавяданні селянін Сымон паступае з сваёй жонкай таксама як і Арцём. „Б'е ён сваю жонку штодзень, знаходзячы нейкую прыдзірку, і яму быццам лягчэй робіцца.

Сымоніха не бароніцца, не крычыць. Яна сама падстаўляе яму плечы...“

Таксама як і Арцёміха. Аднак апавяданне „Сымон“ не ёсць поўным паўтарэннем „Тулягаў“. Розныя ў гэтых творах заканчэнні. У першым апавяданні ўміраюць усе дзеці, застаюцца бацькі, у „Сымоне“ ўмірае маці, застаюцца дзеці і бацька.

Невядома якое з апавяданняў больш драматычнае. Па сутнасці адно і другое аднолькава трагічнае, адно і другое ілюструе беларускую бяду ў яе найгоршых праявах. Характэрнай, аналагічнай мараллю заканчваюцца гэтыя творы. У адным і другім творы мужытыраны як бы раскайваюцца, прызнаюць сваю віну, бачаць у сваіх паступках прычыну сямейнага няшчасця.



**Беларусіяна**

## БЕЛАСТОЧЧЫНА Ў БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

У лістападаўскім нумары штомесячніка „Вармія і Мазуры“ нашу ўвагу прыцягнуў артыкул „Беласточчына ў беларускай савецкай літаратуры“, у якім Сакрат Яновіч робіць пералік літаратурных твораў прысвечаных Беласточчыне. З увагі на тое, што ў паэзіі цяжэй устанавіць інспірацыю Беласточчыны, аўтар абмяжоўваецца толькі сухім пералікам паэтаў і загалоўкаў іх зборнікаў, у якіх можна знайсці гэты матыў. Даўжэй спыняецца на прозе. Апрача пераліку, дае кароткі змест пасобных твораў і прыводзіць галоўнае з жыцця аўтара, а асабліва тое, што было прычынай пазнейшага зацікаўлення Беласточчынай. Асабліва многа месца адводзіць творчасці Аляксея Карпюка і Пятруся Макаля, якім Беласточчына была калыскай іх дзяцінства.

Артыкул падзяляецца на дзве часткі. Першая, непараўнальна большая, прысвечаная творчасці аўтараў, якіх жыццёвая дарога некалі праходзіла праз Беласточчыну і другая — пісьменнікам, якія не маюць непасрэднай сувязі з гэтай зямлёй. Вялікім мостам, спалучаючым Беласточчыну з беларускімі савецкімі пісьменнікамі, з'яўляецца жыццё і дзейнасць Кастуся Каліноўскага. І тут аўтар дае пералік твораў прысвечаных правадыру Студзеньскага паўстання на Беларусі і Літве.

**М. Шаховіч**

## ФАЛЬКЛОР

*СЯМЕЙНАЯ*




*Як соненько заходзіло,*
*до карчомкі йду.*
*Першы пеўні заспявалі —*
*я гарэлку п'ю.*
*Другі пеўні заспявалі —*
*я й ні думаю.*
*Трэці пеўні заспявалі —*
*я дадому йду.*
*Спатыкае дзеверочок*
*у вішнёвум саду:*
*— Братавая маладая,*
*дзе жэ ж ты была?*
*Бо на цебе нагаечка*
*даўно гатова!*
*— Дзеверочку, мой браточку,*
*прашу ратаваць!*
*— Братавая маладая,*
*таго ні ўчыню.*
*Братавая маладая,*
*таго ні ўчыню,*
*бо як будзе мілы біці,*
*дзверы зачыню.*
*А як будзе мілы біці,*
*дзверы зачыню,*
*коб людзі ні сказалі,*
*што цебе люблю.*

Ад Анны Трахімчук, 1891 года нараджэння, вёска Лука гм. Нараўка, запісаў 17 жніўня 1977 г. Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.

## У беластоцкіх самадзейнікаў

У беластоцкім клубе БГКТ пасля летніх водпускаў зноў бурліць культурнае жыццё. Тут збіраюцца перш за ўсё маладыя дзяўчаты і юнакі: Ірка Рыбалт, Валя Шуста, Жэня Аўсенюк, Зінка Бандарук, Ірка Саўчук, Вальдэк Пісанко, Сцёпа Аўсенюк, Янка Піруга і іншыя — усе яны займаюцца ў драматычным гуртку пад кіраўніцтвам Янкі Крупы. Сёлета беластоцкія акцёры ездзілі з п'есай „Мараль Наталлі Зотавай“ Іды Эвальд у клубы ў Міклашах і Орлі. Іх пастаноўкі былі цёпла ўспрыняты вясковымі гледачамі. Усім спадабалася ігра беластоцкіх самадзейнікаў.

Зараз у клубе адбываюцца рэпетыцыі членаў драмгуртка. Яны падрыхтавалі п'есы: „Бацькоўскае благаслаўленне“, „Прымакі“ Янкі Купалы і паэму „Курган“ Янкі Купалы ў сцэнічнай апрацоўцы.

„Бацькоўскае благаслаўленне“ і „Мараль Наталлі Зотавай“ драматычны калектыў паставіў на вечарыне, якая прысвячалася 60 гадавіне Кастрычніцкай рэвалюцыі. З пастаноўкай „Курган“ выступілі на ўрачыстым Пленуме Галоўнага праўлення БГКТ, прысвечаным таксама 60 гадавіне Вялікага Кастрычніка. Абодва гэтыя мерапрыемствы адбыліся ў памяшканні ГП БГКТ у Беластоку.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**





*Члены аматарскага тэатральнага калектыву з Беластока ў пастаноўцы Е. Бондарава „Агледзіны“. Ставілі яны яе на мінулагоднім аглядзе беларускіх драматычных калектываў у Доме культуры ў Бельску.*

## ДЗЕЛЯ АБАРОНЫ

28 лістапада гэтага года адбыўся ў Беластоку юбілейны X ваяводскі з'езд **Лігі абароны краіны**, якая зараз аб'ядноўвае ў Беластоцкім ваяводстве звыш 40.000 членаў і праводзіць шматбаковую дзейнасць.

Удзельнікі з'езду падвялі вынікі чатырохгадовай дзейнасці. Асабліва вялікія поспехі Ліга адзначае ў абучэнні шафёраў легкавых і грузавых аўтамабіляў, а таксама трактарыстаў для патрэб вясковай гаспадаркі, у наладжванні заняткаў з вучнямі розных школ, у пабудове радыёабсталявання для далёкіх сувязей з сябрамі з іншых краін, у пабудове мадэляў самалётаў і суднаў, у падрыхтоўцы кандыдатаў да вышэйшых навучальных афіцэрскіх устаноў.

Вельмі папулярныя сярод членаў і прыхільнікаў Лігі спартыўна-абаронныя спаборніцтвы, у якіх на працягу чатырох мінулых гадоў прыняло ўдзел аж 325 тысяч чалавек рознага ўзросту і прафесій.

Найбольш актыўна дзейнічаюць гурткі Лігі ў Беластоку, Васількове, Карыціне, Саколцы, Боцьках і Сухаволі. Гэта асабліва было адзначана ў справаздачным дакладзе. З гэтага ж дакладу вынікала таксама, што члены Лігі ў 1974-1977 гадах шчыра папрацавалі грамадскім чынам, найчасцей пры пабудове аб'ектаў для заняткаў па спартыўна-абаронных мерапрыемствах. Вартасць іх грамадскай працы ацэньваюць на звыш 3 мільёнаў злотых.

Шырокая дзейнасць членаў Лігі знайшла высокую ацэнку ў прадстаўнікоў партыйнага і адміністрацыйнага кіраўніцтва Беластоцкага ваяводства. Гэтае ж прызнанне праявілася таксама і ў высокіх узнагародах, якімі Рада Дзяржавы, Міністэрства Абароны і іншыя ўстановы ўганаравалі многіх дзеячоў Лігі.

З'езд выбраў новае грамадскае праўленне і вызначыў праграму дзейнасці гэтай арганізацыі на чатыры наступныя гады.

**(вр)**

**Разведка гаспадарнасці**

### КРАМА БЕЗ ПРАДАЎЦА

У Сушчы (гміна Міхалова) пабудаваны пры дапамозе грамадскага чыну прасторны кіёск. Раней у ім прадавалі спажывецкія прадукты. Мясцовым жыхарам ды з суседняй вёскі Бяндзюга было выгадна рабіць пакупкі. Аднак усё скончылася. Хто ўзяўся прадаваць, то ўсё „манка“. Ажно страх абляцеў ахвотных падняцца працаваць у краме. Намервалася быць прадаўшчыцай адна тутэйшая дзяўчына, ды закрычалі яе; „найперш няхай бацька кароўку паабяцае трымаць на тое, каб у выпадку „манка“ (яно кожную сушчанскую прадаўшчыцу праследавала) было чым плаціць“. Дык і тая збаялася. І так ужо некалькі гадоў сушчане ходзяць за кожнай, нават самай дробнай пакупкай, у вёску Круглы Лясок. А туды да двух кіламетраў будзе. З Бяндзюгі яшчэ далей.

Кіёск з прадуктамі першай патрэбнасці тут усім прыдаўся б. Летам над рэчку Нарву прыязджаюць адпачываць зматарызаваныя жыхары Беластока.

ГС у Міхалове павінен зноў адкрыць кіёск у Сушчы. Жыхары Сушчы і раскінутых сялібаў у гэтай надрэчнай ваколіцы былі б вельмі ўдзячны за гэта.

**Іван Непаседа**

 

**Marianna Wróblewska**



**ФОТА ПА ЗАКАЗУ**

Заказвала Крыстына Шульц з Сямяціч.

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Г. аддала ў арэнду Д. 2 га зямлі на тры гады. Тэрмін арэнды скончыўся восенню 1975 года. Хоць Г. патрабавала звароту зямлі, Д. пасеяў азіміну і ў 1976 годзе ячмень і авёс. Сабраў таксама ўраджай. Г. у пачатку 1976 г. выступіла ў суд з патрабаваннем прымусовага высялення Д., аднак правамоцнае рашэнне суда атрымала толькі ў канцы гэтага года, калі Д. зноў пасеяў азіміну. Судовы выканаўца выканаў рашэнне, аднак Д. лічыць, што ўраджай жыта з 1977 г. належаўся яму і, паколькі ўраджай сабрала Г., пагражае судом. Г. лічыць, што не толькі ўраджай з 1977 г. належыцца ёй, але Д. павінен заплаціць за карыстанне з зямлі ў 1976 г. Як трэба было б разлічыць Г. і Д.?

АДКАЗ: Калі кончыўся тэрмін арэнды, Д. стаўся ўладальнікам зямлі са злым намерам. Таму ён не меў права да ўраджаю за 1976 г. Г. можа патрабаваць ад яго звароту вартасці ўраджаю, ад якой трэба адлічыць яго выдаткі на засеў і дагляданне збожжа. Калі б праца была выканана нядбала і ўраджай быў горшы, чым пры належным дагляданні, Г. можа патрабаваць вартасці нармальнага ўраджаю. Д. не мае ніякіх асноў, каб патрабаваць заплаты за ўраджай з 1977 г., які сабрала Г. Ён можа толькі патрабаваць звароту сваіх выдаткаў на засеў азімін у 1976 годзе, і толькі ў межах беспадстаўнага збагачэння Г. Прыкладна, калі б у выніку дрэннага надвор'я азіміна змарнавалася і Г. не мела з яе карысці, Д. ніякая кампенсацыя не належалася б.




Дарагое Сэрцайка, ужо два гады хаджу я з Косцем. Кахаем адно другое і ўжо нават аб вяселлі гаварылі. Маме ён таксама спадабаўся, бо не п'е, не курыць, спакойны, працавіты. Выгадаваўся ў цяжкіх умовах: бацька алкаголік, шмат пацярпелі ад яго Косця з маткай. Мама аб гэтым ведала, Косця сам гаварыў, і спачувала ім. Але ўсё павярнулася ў другі бок, калі хтосьці маме сказаў, што як бацька алкаголік, дык і сын п'яніцай будзе. Мама сказала, што ўжо два гады да нас прыходзіць, але ніколі не запіўся. Але гэты „хтось", бо мама не хоча яго назваць, сказаў, што хоць і не п'е цяпер, то ў будучыні напэўна піць будзе. І мама паверыла. Катэгарычна забараніла мне з ім спатыкацца. Я маме тлумачу, што Косця перажыў сам многа праз бацьку-п'яніцу і нянавісць да ўсіх п'яніц чуе. І сам на гарэлку глядзець не можа. Я перад Косцем усё скрываю, спатыкаюся з ім тайком, але ён сам ужо заўважае, што нешта кепскае дзеецца, дапытваецца, і я ўжо далей так трываць не магу, але і сказаць адкрыта баюся. Баюся, каб гэтыя плёткі не разбурылі нашага шчасця. Што рабіць, Сэрцайка?

Люба з Бельшчыны

Не першай табе пляткары справы папсавалі, напсулі нерваў і табе і сям'і. Але пляткарам рота не заткнеш. Галоўнае — даць ім рашучы адпор. Што ж, трапляюць яны на наіўных, якія вераць ім, так як паверыла твая мама. Яна ж знае хлопца, дык пляткарка не магла ачарніць яго цяпер. „Прадсказала" будучыню. На якой падставе? Якраз усё гаворыць за тое, што Косця, нацярпеўшыся ад бацькі-п'яніцы, як сама кажаш, зненавідзеў гарэлку. Старайся пераканаць маму, што пляткары — адсталы элемент, які крыўдзіць наіўных людзей. Мама ж твая мае вочы і розум, і сама без „дапамогі" можа ацаніць хлопца. Косці далікатна скажы ў чым справа. Яму важна будзе, што ты верыш яму, кахаеш яго. А гэта ж галоўнае.

Сэрцайка

## Куток практычных ведаў

# Дагляд броваў

Дагляд броваў нескладаны. Раніцай пасля мыцця раіцца звычайнай зубной шчоткай некалькі разоў прычасаць бровы то ў адзін, то ў другі бок.

Добра на шчотку нанесці кропельку алею або рыцыны, любога тлустага крэму. Змазванне засцерагае бровы ад высыхання, асабліва ў ветранае або сонечнае надвор'е.

Пры жаданні форму броваў можна змяніць: зрабіць іх больш тонкімі, прамымі, круглымі. Аднак вельмі змяняць форму броваў не трэба, таму што гэта парушае гармонію твару. Апрача таго, трэба ўлічваць, што каму падыходзіць. Калі бровы злётку ўкарочаны, яны маладзяць твар. Чым вышэй бровы, тым больш і выразней здаюцца вочы. Таму, калі вы рашылі зрабіць свае бровы больш тонкімі, выскубаць лішнія валаскі раіцца толькі з ніжняй іх часткі.

Лепш за ўсё гэта рабіць пінцэтам. Пры выскубванні захоўвайце простыя правілы гігіены. Памыйце рукі і твар з мылам, пінцэт пратрыце адэкалонам.

Пасля гэтай працэдуры скура часам чырванее. Калі чырвань неўзабаве не пройдзе, змачыце скуру растворам борнай кіслаты. Улічыце: калі скура броваў чырвоная ад запалення або пакрыта гнайнічкамі, нічога рабіць з бровамі нельга.

Бровы ніколі не галіце, на скуры застаюцца сляды ў выглядзе чорных кропак. Да таго ж валаскі хутка адрастаюць, становяцца цвёрдымі, тырчаць у розныя бакі.

Нярэдка жанчыны падфарбоўваюць бровы. Тут таксама трэба ўмеранасць: празмерная чарната надае твару ненатуральны выгляд.

Падфарбоўвайце бровы спецыяльнымі алоўкамі, стараючыся пафарбаваць толькі валаскі, а не скуру. Лепш праводзіць алоўкам супраць валаскоў, каб пафарбаваць іх раўнамерна.

І яшчэ адна парада: калі вы знайшлі форму і колер броваў, якія вам да твару, старайцеся захоўваць іх заўсёды.

Сяброўка

*БЕЛАРУСКАЯ МОДА*



*Сукенка з шэрага ільну з шэрымі карункамі (з мінскага Дома мадэляў).*

**Толькі скнара і лянівы не выпісвае „Нівы"**






Супярэчанняў не было: усе паважалі Ханса за доўгагадовую службу на флоце. Але не было і талковай прапановы: куды ж накіравацца? Большасць крычала, што трэба прабівацца на захад і здацца англічанам. Але гэта была авантура. У вузкім праліве дацкіх астравоў іх лодку вылавілі б, як рыбу ў лужыне.

Ханс Шроткамп рашыў:

— Ёсць яшчэ шанц...

— Выкладвайце! — распарадзіўся старшы рулявы. Ён ніяк не мог вымавіць звычайнае „ты".

— Курс на ўсход!

— Ото!

Гэта прагучала, як выстрал. Матросы зашумелі. Вось, сапраўды, з глузду з'ехаў, ці што? Здавацца рускім! Ды ўжо лепш пад расстрэл! Ці мала чыталі і чулі аб жорсткасці рускіх! Не, што хочаце, толькі не бальшавікі...

— Матросы, вас абманваюць!

Усе азірнуліся. З-за вугла, дзе стаялі палонныя афіцэры, крочыў было ўперад палкоўнік фон Хасель.

Ханс Шроткамп, скрыгануўшы зубамі, павярнуўся да афіцэраў.

— Зброд, варты жалю! — злосць клякатала ў яго горле. — Нікчэмныя стварэнні! Яшчэ слова, і выпушчу чаргу прама ў бруха...

Ён павярнуўся да каманды, ужо спакайней:

— Не псіхуйце вы, чорт вас усіх забяры! Гэта ж старыя бязглуздыя байкі...

Але яго зноў перакрычалі. Не, рускі палон — гэта нікому не ўсміхалася. Матросы ўжо ўявілі сябе з адрэзанымі насамі і вушамі.

— Папрацуйце галавой, рабяты, — сказаў Ханс, перачакаўшы, калі яны сцішацца, — на які чорт Гітлеру спатрэбілася тапіць „Мемель", каб даказаць зверствы рускіх?

Гэты довад зрабіў уплыў, усе прыціхлі.

— Калі я апошні раз гуляў у водпуску, — працягваў ён, — я лавіў маскоўскае радыё. Нашы салдаты, якія здаліся рускім, самі гаварылі, што з імі ніякай бяды не было.

Ханс сам дзівіўся, як лёгка сарвалася з яго вуснаў гэта „маскоўскае радыё". Ён ніколі не слухаў маскоўскага радыё. Але трэба ж было, каб яго чорт узяў, прымаць рашэнне, пераканаць астатніх.

— Ды ты, бадай, сам камуніст або што-небудзь такое?

— Вось ужо лухта! Я хлапчуком сам быў актывістам гітлерюгенда, — зноў зманіў Ханс і, калі ўсе прыціхлі, дадаў:

— А акрамя, як на ўсход, ходу нам няма. Або, матчыма, хочаце да сваіх? Пад аўтаматы? Так, я яшчэ жыць хачу...

Частка матросаў падтрымала Ханса. Іншыя ўсё яшчэ спадзяваліся на нейкі іншы зыход. І тут у Шроткампа знайшоўся нечаканы саюзнік.

Галоўны механік, які маўчаў да таго часу, дачакаўшыся мінуты цішыні, раптам сказаў:

— Матросы, обермат Шроткамп мае рацыю. Здацца Івану — гэта апошні шанц застацца ў жывых. Нас, вядома, не расселяць у вілах на паўднёвым беразе, але жраць жыўцом таксама не будуць. Пакуль не позна, я прапаную ісці на ўсход...

Гэта вырашыла ўсё. Калі ўжо самі афіцэры гавораць, што рускі палон — адзіны шанц выжыць, значыцца, так яно і ёсць. Іншага шляху не застаецца.

Старшы рулявы ў роздуме апусціў галаву.

— Так ці гэтак — усюды капут. Але адказваць за гэта я не хачу, шукайце іншага камандзіра.

Ён дэманстратыўна сунуў рукі ў кішэні і адвярнуўся.

— Прапаную Шроткампа, — сказаў адзін матрос. Іншых прапаноў не было.

У першы момант Ханс Шроткамп разгубіўся, але зараз жа ўзяў сябе ў рукі:

— Добра, згодзен. Значыцца, вырашылі — прабіваемся на ўсход... А цяпер усе па месцах!

Голас старшыны гучаў уладарна, упэўнена, але ў душы ён таксама сумняваўся: як жа ўсё атрымаецца? Раптам рускія і сапраўды без размовы паставяць іх да сцяны?

І моўчкі, апусціўшы галаву, ён пакрочыў да дзвярэй.

15

У 15.00 Ханс Шроткамп рашыў выйсці на перыскопную глыбіню. Лодка набліжалася да загараджальнага пояса. Перыскоп адразу ж прыйшлося ўбраць: уверсе баразнілі хвалі два тарпедныя кацеры са свастыкай. Ззаду вырысоўваліся сілуэты двух мінаносцаў.

Ханс Шроткамп падумаў, што нядрэнна б цяпер усплысці і наставіць ім акуляры: нібы лодка сама шукае рускія караблі. Але тут жа махнуў рукой. Хто ведае, якая мэта ў тых, наверсе? Выпусцяць у цябе ва ўпор парачку тарпед — і памінай, як звалі. Не, застаецца толькі праслізнуцца пад вадой.

Ханс зноў загадаў спусціць лодку на дваццаціметровую глыбіню і зазірнуць у слыхавы адсек.

— Кудэль, трымайся. Усё цяпер на табе вісіць.

*(Заканчэнне ў наступным нумары)*



 

